ЗМЕСТ

## Уступ

Мікалай Крукоўскі.

Чалавек універсальных поглядаў і доўгага, яркага і насычанага жыцця.

Партызан-ардэнаносец. Чалавек, які прайшоў вайну, пранёс праз усё жыццё сляды атрыманага ў баі ранення. Творца сучаснай эстэтыкі і канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі.

Аўтар унікальных кніг, і мноства артыкулаў на самыя разнастайныя тэмы філасофскага, культуралагічнага, паліталагічнай зместу ....

Прафесар культуралогіі. Старшыня Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі.

Астраном-аматар і выдатны музыка. Аматар турпаходаў і спорту ...

Гэта ўсё – Мікалай Крукоўскі.

Аўтару гэтага нарыса жудасна пашанцавала. Воляю лёсу мне давялося сустракацца, мець зносіны і нават працаваць з прафесарам Мікалаем Ігнатавічам Крукоўскім.

Я з гонарам называю яго сваім настаўнікам. У манаграфіі "Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце», напісанай мною ў 2003 годзе, Крукоўскі быў навуковым рэдактарам. Ён з'яўляўся таксама навуковым кансультантам пры напісанні дысертацыі на тую ж тэму.

Кожная сустрэча з Мікалаем Ігнатавічам – гэта шлях у іншы, лепшы свет, гэта прысутнасць і прыгажосць інтэлектуальная думкі, гэта свята. Таму не проста перадаць веліч света М. Крукоўскага, хутчэй за ўсё гэта ненемагчыма. Я паставіў задачу больш сціплую – зрабіць першае набліжэнне да знаёмства з выдатным беларускім філосафам Мікалаем Ігнатавічам Крукоўскім і вызначыць арыентыры для больш глыбокага вывучэння яго спадчыны.

## *1. Дзяцінства. Юнацтва.*

Крукоўскі Мікалай Ігнатавіч нарадзіўся 16 лістапада 1923 г. у сялянскай сям'і у вёсцы Машкова Аршанскага р-на Віцебскай вобл. Рэспублікі Беларусь.

Бацькі да рэвалюцыі працавалі ў сельскай гаспадарцы, пасля сталі служачымі.

Род Крукоўскіх у Беларусі вядомы. Крукоўскія мелі ўласны герб і шматвекавую гісторыю. Мікалай Ігнатавіч аднойчы адзначыў, што першапачатковае родавае прозвішча ў рускай версіі пісалася менавіта праз "у", але потым, каб наблізіць яго гучанне да фанэтычнай спецыфікі мовы "старэйшага брата", у дакументах была зафіксавана версія праз "ю" – Крюковский. Падобная рэч некалі адбылася і са знакамітым пісьменнікам Васілём Быкавым, які насамрэч меў прозвішча Бык.



З маці Марыяй і бацькам Ігнатам. 1930 г.

Да 1938 г. сям'я Крукоўскіх жыла на вёсцы (да 1929 г. у Машкове, затым на хутары Карабіна Машкоўскага с/савета (цяпер знішчаны), дзе бацькі атрымалі зямельны надзел згодна вядомай прышчэпаўскай рэформе.

У 1938 г. сям'я пераехала ў г. Воршу, дзе ў 1940 г. будучы вучоны скончыў 2-ю сярэднюю школу. Нельнага не адзначыць абавязковы для біяграфій савецкага часу факт: у 1939 г. уступіў у ВЛСМ.

Ужо ў школе выявіліся шматлікія здольнасці будучана вучонага. Ён добра іграў на мандаліне, спяваў, удзельнічаў у аглядах мастацкай самадзейнасці; не без падстаў яны разам з бацькам падумвалі аб набыцці скрыпкі.

Ён казаў, што калі б можно было пражыць некалькі жыццяў, то ў адным з іх ён бы быў дырыжорам. Гэтая жарсць – стаць кіраўніком цэлага аркестра у яго прайшла праз усё жыццё. І, як успамінае ягоная дачка Вольга – ужо калі яму было далёка за 80, у філармоніі пад час канцэрта ёй прыходзілася устрымліваць ягоныя рукі, якія ўздымаліся ў такт музыцы.

Скончыўшы дзесяцігодку ў Оршы, аднак паспрабаваў шчасця на іспытах у Маскоўскі авіяцыйны інжынерны інстытут. Але падвялі не вельмі добрыя веды ў матэматыцы. Вярнуўся ў Оршу, куды крыху раней пераехалі на сталае жыхарства і бацькі. Без іспытаў яго прынялі ў ў 1940 г. на І курс Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Але правучыўся толькі год, бо пачалася вайна. Прама з інстытута яго накіравалі на працу ў г. Сычоўку.

У верасні 1941 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт.

## *2. Вайна.*

У стралковым палку пад Смаленскам быў прызначаны камандзірам аддзялення.

Армія трапіла ў акружэнне, так званы «Вяземскі кацёл». Байцам, зусім маладым, “не абстрэляным” хлопчыкам, быў дадзены прыказ прарывацца праз замкнутае кальцо фашистов по аднаму. Хлопцы падзялілі і з’елі весь свой паёк, развіталіся адзін з другім. Міклай паглядзеў на свайго лепшага франтавога сябра – мандаліну, пацалаваў яе і повесіў на вельмі высокую сасну. Ён развітваўся з ёй назаўсёды… І кожны з байцоў пайшоў куды вочы глядзяць, як пашанцуе. Хто загінуў, хто трапіў у палон. Самаго Міколу схапілі немцы. А мандаліна так і засталася самотна вісець ў асеннім лесе. Высока-высока… Такое сямейнае паданне засталося з той трагічнай гісторыі.

Пра тое як малады салдат Мікалай Крукошўскі трапіў у палон цікава гаворыць ён сам у інтэрв’ю з Ю.Залозкам: “На трэцім прарыве трапілі ў рукі немцам. Таксама было пачуцьцё непрыемнае — уздымаць рукі ўгору. Мы ж выхаваныя былі, што трэба рабіць харакіры… Ішлі на вёску выматаныя, есьці не было чаго. Снег тады ў кастрычніку выпаў. Падыходзім да вёскі — глядзім, выходзяць адзін за адным пяць хлопцаў у нейкай нянаскай форме. Яны з аўтаматамі, а ў нас іржавыя трохлінейкі, і за намі мэтраў 300—400 роўнага поля, пасыпанага сьнегам. Потым мяне энкавэдыст пытаў: «Як, чаму вы зрабілі гэта?» Я яму хацеў сказаць: «Паглядзеў бы я на цябе». Вайна ёсьць вайна”.

М. Крукоўскі трапіў у групу маладых ваеннапалонных, якіх павінны былі адвезці ў Нямеччыну. Ехалі ў таварных вагонах пад пільнай аховай нямецкіх салдат. Ноччу, ужо пад

Смалявічамі Мікола ўбачыў, што ахоўнікі недзе адышлі ў іншы вагон і ёсць магчымасць уцекці. Для гэтага трэба было толькі прыгнуць з цягніка на поўным ходу. Ён крыкнуў: “Хлопцы трэба ратавацца. Гэта наш шанц! Спрыгнем і ніхто нас не спаймае!” На дзіва, яго амаль ніхто не падтрымаў. Усе палонныя салдаты сядзелі з пакорай аддаючы свой лёс ворагу. Потым ён шмат разоў будзе ўспамінаць той эпізод з гараччу говарачы – “Няўжо мы – беларусы нацыя такая, што не можам за сябе пастаяць? Так, як паводзілі сябе тады маладыя палонныя салдаты – труслівa, пакорліва аддаючы сябе няволі, не дае гонару нам як нацыі, як народу”.

Аднак двое хлопцоў усё ж падтрымалі Міколу і яны саскочылі з таварняка. Пабілісь трохі, але асталіся жывымі, і галоўнае – свабоднымі. Трохі пабадзяўшыся па незнаёмых вясковых мясцінах, Мікола вярнуўся дадому.

Вось так упершыню на поўную праявіўся непрымірымы, вольналюбівы характар будучага вучонага. Такім ён будзе і ў навуцы – бекапрамісны, сумленны. Ніколлі не скорыцца ён перад цяжкасцямі, ніколі не зможа ён здрадзіць не толькі блізкім, але й сваім ідэалам, сваім высокім прынцыпам.

Мікола вярнуўся ў Оршу, у бацькоўскі дом, дзе заставаліся ўжо адныя дзядуля з бабуляй. Бацька яго – Ігнат Крукоўскі ваяваў на фронце, маці – настаўніца Марыя Мікалаеўна разам са сваёй школай падалася ў эвакуацыю, на усход.

Да верасня 1941 г. ён жыў у гэтым доме па ягонаму ж цікаваму выразу «жил у них нигде не работая». Але ўжо на пачатку 1942 г. звязаўся з партызанамі брыгады Заслонава. Стаў спачатку звязным. Узімку 1942 – 1943 г. з мэтай канспірацыі працаваў спачатку учотчыкам аддзела добраўпарадкавання, а потым музыкантам у так званым Нардоме.

Каб замацавацца ў Воршы, ён паступіў на працу ў БНД – Беларускі народны дом. Гэта была культурная ўстанова. Яна занімала будынак аэраклубу, дзе да таго быў сабор, разбураны ў савецкія часы. БНД меў народны хор, а таксама новастворaны аркестар, дзе Мікалай Ігнатавіч павінен быў граць. Вось як ён прыгадвае гэты эпізод:

“Нават канцэрт адзін далі на ільнокамбінаце. БНД быў проста астраўком для выратаваньня. Там сабраліся інтэлігентныя людзі. Я выкарыстоўваў яго як «страху» для сваёй агентурнай дзейнасьці.”

Неўзабаве прыйшоў загад перайсці для дальнейшай барацьбы з ворагам у партызанскі атрад. У сакавіку 1943 г. быў назначаны на пасаду камандзіра аддзялення, а пазней начальніка штаба атрада “Малады Бальшавік” К.Заслонаўскай партызанскай брыгады.

5 снежня 1943 г. М. Крукоўскі быў паранены ў баі.

У партызанах падчас адной з варожых блакад і сутычак з ворагам – ўжо калі ён начальнікам штаба атрада, куля прашыла яму кісць левай рукі, пашкодзіўшы сухажылле; рана

зажыла, але ў далейшых сваіх разліках на мірны лад жыцця чалавек павінен быў канчаткова развітацца з думкамі пра набыццё скрыпкі і прафесійны занятак музыкай.

У гэты час ён наладжвае сувязь з бацькамі. Вядзе перапаіску з маці. Лісты да маці прыклад шчырасці, сынавай любові, сведчанне непрымірымасці да фашысцкай навалы і жадання перамагчы ворага.

*<u>16/2.44г./матери/</u>*

*Раны почти закрылись. Самочувствие замечательное. Уже начал работать начальником штаба отряда. Командование бригады ходатайствует о присвоении мне звания лейтенанта и одновременно представило к правительственной награде. Ребята, окружающие меня, замечательные. Особенно один, из Москвы, лучший мой друг Гриша – веселяга, насмешник, музыкант и художник, а вместе с тем и отважный диверсант. Одним словом, бьём немцев во всю.*

У гэтым лісце упершыню ўзгадваецца Рыгор Мікаленка, з якім ён будзе сябраваць праз усё жыццё.



1949 г. Мікола Крукоўскі (злева) і "*отважный диверсант*",

партызанскі сябра Рыгор Мікалаенка.

Цікава, што нягледзячы на віхуру ваенных дзеянняў, на жыццё поўнае небяспекі, няўпэненасці у простай ісціне – ці пабачыш ты заўтра сонца, ці будзеш ляжаць забітым у магіле невядомага салдата, М.Крукоўскі думае… пра кнігі!

Вось вытрымка з ліста да маці ад 21/Х-44г.:

*С жадностью прочел все письма. Не меньшее удолетворение и радость доставил, мне и перевод на 1000 руб. Я с минуту восторженный созерцал его и в туманных далях моей разгоряченной фантазии уже мерещились, что бы ты, мама, думала?… книги…, целые груды книг, приветливо раскрывавшие мне объятия тисненных с золотом переплетов, веявших на меня со своих атласных страниц*

*таинственным духом древности, набивавших голову мою всевозможной мудростью и соблазнявших мое воображение полными изящества формами и красотами искусства.*

Вайна скончылася. І краіна не забылася пра свайго героя. Партызан М.Крукоўскі быў узнаагроджаны медалями " За отвагу" и "Партизану Отечественной войны" I ступені, ордэнам Айчыннай вайны I ступені.

20 красавіка 44-га г. самалётам перапраўлены на лячэнне ў савецкі тыл. Пасля трохмесячнага лячэння працаваў на заводзе ППО ў г. Таржку.

Здаецца, нарэшце, жыццё стабілізуецца. Аднак, для Мікалая Крукоўскага выпрабаванні не скончыліся. Раптоўна яго арыштоўваюць. Быццам бы для праверкі. І на нявызначаны час яго адпраўляюць для "госспецправеркі" ў спецлагер НКВД № 140 у г. Калініне.

Трэба сказаць, што праз гэтыя спецправеркі, а насамрэч савецкія гулагаўскія лагеры, прайшлі многія савецкія ваеннаслужачыя, якія трапілі ў палон да немцаў. Па загаду Сталіна ўсіх то трапіў у палон прыраўноўвалі да "ворагаў народа" і многіх судзілі па тых жа артыкулах, як і іншых ахвяраў сталінізму. Праз праверачныя-фільтрацыйныя лагеры НКУС "спецлагеры" (або праверачныя-фільтрацыйныя лагеры) НКУС прайшло таксама большасць "рэпатрыянтаў", г.зн. савецкіх грамадзян, вывезеных германскімі акупацыйнымі ўладамі ў гады вайны за межы СССР, а затым прымусова дастаўленых назад. Як вядома, сярод такіх людзей было, напрыклад, мноства немцаў, якія пражывалі на акупаваных савецкіх тэрыторыях.

Вось кароткія звескі адносна гэтага малавывучанага перыяда нашай гісторыі. 22 студзеня 1946г., Наркам С. Н. Круглоў падпісаў загад № 0075 "Аб перадачы ПФЛ ГУЛАГу і расфармаванні ОПФЛ НКВД СССР", па якім "у адпаведнасці з пастановай ДКА № 9871с-18.08.45 аб накіраванні спецкантынгенту ("власаўцаў", асоб, якія служылі ў нямецкай арміі, страявых фарміраванняў, легіянераў і паліцэйскіх) на рассяленне ў паўночныя раёны краіны на становішчы спецперасяленцаў з замацаваннем ў месцах рассялення на 6 гадоў "праверачныя-фільтрацыйныя лагеры" з усімі наяўнымі кадрамі работнікаў лагераў, аховы, гаспадаркай, памяшканнямі, транспартам і маёмасцю "перадаваліся" у склад лагераў ГУЛАГа ". На падставе гэтага загаду ў вядзенне ГУЛАГа перайшоў і лагер ПФЛ № 140 (Калінін), у якім утрымлівалася спецкантынгенту па стане на 1 студзеня 1946 г. 1801 чалавек.

Аднак, нашаму герою, будучаму маэстра савецкай, а потым і сусветнай эстэтыкі удалося збегчы і з савецкага лагера. Магчыма згуляла ролю і тое, што на ўсю моц Калінінскі лагер яшчэ не паспеў запусціць каральны махавік. З другога боку, думаецца, што бліскучы розум Мікалая Ігнатавіча, здольнасць да ацэнккі сітуацыі і прыняцця патрэбных рашэнняў згулялі таксама немалую ролю ў выхаду з той крытычнай сітуацыі.

І зноў ён ягоны шлях ляжыць да бацькоўскага дома. Праз некалькі дзён пасля ўцёкаў ён вяртаецца ў Воршу.

### *3. Студэнцтва.*

У 1945 г. паступае на I курс філалагічнага ф-та Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта. Спецыялізавуецца ў галіне эстэтыкі і літаратуры.

Падчас вучобы ў БДУ будучы вучоны знаёміцца з будучай жонкай, гамельчанкай Яўгеніяй Пятроўнай, (дзявочае прозвішча – Сапінская). Падставай для знаёмства аказалася агульнай любоў да музыкі. Яўгенія мела цудоўны голас – каларатурнае сапрана і яшчэ да вайны была прынятая на падрыхтоўчае аддзяленне па класу вакала ў Мінскую дзяржаўную кансерваторыю. Але яе мара не спраўдзілася – пачалася война.

Яўгенія паступіла на факультэт журналістыкі, але заняткі музыкай не пакідала. Яна стала арганізатарам стварэння універсітэцкага хору. Хадзіла па аудыторыям і запісвала жадаючых спяваць. У Мікалая Ігнатавіча быў прыемны баратон, ён запісаўся ў хор і закахаўся ў дзяўчыну. Хутка яны распісаліся. Шоў 1946 год.



Мікалай Крукоўскі. 1947 год.

Маладажоны пасяліліся жыць не ў царскіх палатах, а ў распаўсюджаным у пасляваенным Мінску памяшканні – бараку. Але для іх свет быў ужо падпарадкаваным дэвізу: «Прыгажосць выратуе свет" і так, пад гэтымі вялікімі словамі Дастаеўскага, яны пражылі усё жыццё...



1949 г. Выпускнікі філфаку. У верхнім шэрагу злева направа: Вінакур, М.Крукоўскі, Н.Кіслік, А.Адамовіч.

Мікола Крукоўскі закончыў БДУ з купалаўскай стыпендыяй і чырвоным дыпломам у 1950 г. Характэрная назва тэмы дыпломнай работы, цалкам вытрыманая ў духу савецкай ідэалогіі: “Ленинская теория отражения как философская основа эстетики социалистического реализма”. Абарана дыплома прайшла бліскуча.

Тады ж на душэўным уздыме ён пасылае тэкст свайго сачынення ў маскоўскі часопіс “Вопросы философии”, а таксама папулярнаму пісьменніку А.Фадзееву, старшыні Саюза пісьменнікаў СССР, які ў публічнай дыскусіі пра сацрэалізм у тым часе разглядаў яго як спалучэнне звычайнага рэалізму і рамантызму. Угледзеўшы ў гэтым дыялектычны падыход М.Крукоўскі падтрымліваў мэтра літартуры. Аднак філасофскі часопіс, адказваючы аўтару, разнёс у пух і прах яго дыпломную работу і ягоныя погляды. А. Фадзееў перакінуў ліст М. І. літкансультанту саюза пісьменнікаў І.Ляжнёву. Ягоны ліст не быў такім жорсткім як “у філосафаў”, аднак і ў ім утрымлівалася перасцеражэнне: “Чем скорее тов.Круковский освободится от влияния «рапповских» просветителей, тем для него будет здоровее».

У 1950 годзе па ініцыятыве Кандрата .Крапівы, насуперак рашэнню камісіі Міністэрства адукацыі па размеркаванню накіраваць М.Крукоўскага на работу ў сельскую школу Баранавічскага р-на, ён быў залічаны ў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР у якасці малодшага навуковага супрацоўніка.

Пачалося новае цікавае жыццё, напоненае навуковымі пошукамі, захапляльнымі адкрыццямі. Яму ж яшчэ няма трыццаці…

### *4. Сям'я, дзеці, захапленні*

Неўзабаве ў Крукоўскіх нарадзіліся дзеці. Спачатку дачка Наталля (1947), а потым і Вольга (1956). Абедзьве атрымалі ў спадчыну ад бацькоў схільнасць да музыкі. Наталля стала музычным крытыкам. Скончыла Ленінградскую кансерваторыю. У сваёй дыпломнай працы яна раскрыла невядомыя старонкі жыцця і творчасцы Мікалая Дылецкага, выдатнага музычнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, які нарадзіўся ў Кіеве, вучыўся ў Вільні і аставіў знакавы след у тэоры шматгалосых царкоўных спеваў. Акадэмік У.В. Пратапопаў у сваім даследаванні па адзначыў уклад Наталлі Крукоўскай гісторыі рускіх царкоўных спеваў.

Вольга наогул ажыццявіла юнацкую мару Мікалая Ігнатавіча – яна стала скрыпачкаю і назаўжды звязала сваё жыццё з прафесійнымі заняткамі музыкай. А ў перыяд царкоўнага адраджэння 90-х гадоў прыняла грэка-каталіцызм і стала рэгентам царкоўнага хору маладой уніяцкай суполкі ў г. Мінску.

Сямейнае жыццё Крукоўскіх будавалася на прынцыпах узаемапавагі, любові. Яны жылі што называецца поўным сямейным жыццём, дзелячы кожную хвіліну паміж чальцамі сваёй сям'і, дзелячы свае веды і любоў паміж кожым членам сваёй маленькай супольнасці.



Шчаслівае сямейства.

Мікалй Крукоўскі імкнуўся перадаць свае здольнасці, свае захапленні сваім дзецям і гэта яму ўдавалася.

Вось няпоўны пералік захапленняў вучонага: жывапіс, музыка, турызм, падарожжы, астраномія, вывучэнне моў і іншыя.

Жывапіс. Праз усё жыццё Мікалай Ігнатавіч захапляўся жывапісам. Ён любіў выязджаць з эцюднікам на прыроду, браў з сабой дзяцей, даваў і нам пэндзелі і фарбы. Усе малявалі. Дома

прымушаў мяне адточваць майстэрства малюнка па падручнікам. У яго была добрая падборка альбомаў па выяўленчаму мастацтву і дзеці з захапленнем іх часта разглядалі. З часам стаў членам Саюза мастакоў і прымаў актыўны ўдзел у яго працы. У часопісе “Мастацтва” на першых старонках рэгулярна друкаваліся ягоныя артыкулы.

Але найбольшым захапленным была, канешне, музыка.

Раненне не дазволіла прафесійна іграць на любімай мандаліне. Але яно не паўплывала на яго любоў да музыкі. Міклай Ігнатавіч сабраў выдатную калекцыю пласцінак класічнай музыкі, якую ён вельмі любіў усё жыццё. Абедзве дачкі вычыліся ў музычных школах: Наталля на фартэпіяна, а Вольга – на скрыпцы. Нягледзечы на пакалечаную раненнем руку Мікалай Ігнатавіч таксама навучыўся іграць на скрыпцы, але адмысловым спосабам – «люстрана». Скрыпка трымалася ў правай руцэ, а смык – самым неверагодным спосабам – у левай руцэ. Гэта дазваляла сям’і Крукоўскіх іграць цэлым аркестрам – на двух скрыпках з фартэпіяна, а таксама разам з маці спяваць.  Дачка Вольга успамінае: “Памятаю, у нашай аднапакаёвай кватэрцы з'явіўся і ксілафон. Палачкі да яго бацька утрымліваў даволі спрытна і гуляў на ксілафоне амаль віртуозна. А гітара ў пакалечаны руцэ бацькі ператваралася ў «гавайскую»”.

*Турызм. Падарожжы.*

Кожнае лета курортамі сям’і Крукоўскіх былі паходы па розным мясцінам Беларусі. Вольга згадвае, што “свой першы рукзачок я закінула на плечы ў 9-гадовым узросце”. Здымалі хаты ў вёсках, ставілі намёты ў лесе – і падарожнічалі…  Любілі ездзіць на цудоўныя беларускія азёры: Нарач, Браслаўшчына, Вушацкія азёры, Жерынскія і нарэшце – Лепельскія азёры, там дзе ваяваў М.Крукоўскі. Такім адметным і выдатным спосабам ён прывіваў дзецям любоў да Беларусі, на справе паказваў якая яна велізарная і прыгожая.

М.І. заўсёды падтрымліваў сябе ў добрай фізічнай форме. Ездзіў на лыжах, каньках, байдарках і г.д. Хіба не дзіва: на канькі ў апошні раз стаў у 75 гадоў – ездзіў па лёдзе Мінскага мора.

Але самай вялікай любоўю яго стала яхта. Выходзячы на абшары Нарачы пад ветразем, ён быў, па-сапраўднаму, шчаслівы. Здаецца, да Крукоўскага ў Беларусі ніхто сур’ёзан не займаўся такім хоббі, ці спротам як плаванне пад парусамі на яхце.  Аддаваў перавагу Нарачы з-за яе прастору і таму, што яна магла быць вельмі грознай і суровай.



На Нарачы

І яшчэ – падводнае плаванне. М. Крукоўскі ўспамінае: “Я першым у Мінску набыў ласты для падводнага плавання і паказваў клас  на Мінскім моры і Нарачы. Ласты мне  прывёз з Масквы Алесь Адамовіч. Пазней ужо – у магазіне “Дынама” у Мінску – купіў парусьнік, і, ведаеце, водамі  колькіх рэк і азёраў праплылі, асвоілі ўлонне ўсёй Беларусі з яе незвычайным хараством!”

*Астраномія.*

Мікола Крукоўскі быў закаханы ў зоркі. Часта цытаваў словы Канта аб прыгажосці зорнага неба і дэманстраваў пад час якога-небудзь падарожжа чыстае начное неба, поўнае зорных узораў і распавядаў пра таямніцы Сусвету. Была ў маладога філосафа-эстэтыка і “зорная”  мара – адкрыць новую зорку. У яго кабінеце стаяў асобны стол з картай зорнага неба, было шмат падручнікаў і даведнікаў па астраноміі. Была падзорная труба, а ў апошнія дзесяцігодзі жыцця і даволі вялікі тэлескоп. Тэлескоп займаў цэнтральнае становішча ў кабінеце вучонага і ён з гонарам паказваў яго гасцям.

### 5.   *На працу!*

У 1956 г.  М.Крукоўскі абараніў кандыдацкую дысертацыю па лінгвістыцы і выдаў манаграфію “Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову”.   Аднак, пасля абароны, высвятляць "Ролю рускай мовы ў узбагачэнні лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (тэма дысертацыі) больш не стаў. Гэтая тэма яму, можа, і не надакучыла, але хацелася большага. Любоў да філасофіі, роздум над глабальнымі праблемамі грамадства,

шляхамі сусветнай цывілізацыі – вось кола інтарэсаў навукоўца. І перш за ўсё яго займае пытанне адносна месца чалавека ў сістэме сучаснай культуры.



М.Крукоўскі робіць даклад у Інстытуце мовазнаўства АН БССР.

Аднак, прапанаваная дырэкцыяй Інстытута тэма доктарскай дысертацыі па праблеме ўзаемадзеяння блізкароднасных моў у абставінах развітога сацыялізму глыбока не задавальняла Крукоўскага з-за яе празмерна палітызаванай накіраванасці, і ён пачаў інтэнсіўна займацца эстэтыкай і філасофіяй, якімі востра цікавіўся яшчэ ў БДУ. А пазней (у 1963 годзе), увогуле адмовіўшыся ад дысертацыі, перайшоў на працу ў БДУ на ўзначальваную тады праф. Лушчыцкім І. М. кафедру гісторыі філасофіі, логікі і эстэтыкі, дзе пачаў чытаць курсы па эстэтыцы, сацыялогіі мастацтва і тэорыі мастацкай культуры.

*Мара жыцця Крукоўскага: фармалізацыя філасофіі.*

Ужо ў артыкуле «Мадэляванне эстэтычных адносін і чатырохзначны логіка", які быў знойдзены ў архіве вучонага і датуецца 1965 годам, у поўнай меры бачны наватарскі падыход Крукоўскага да эстэтычнай навукі. Адным з першых М. Крукоўскі прыходзіць да думкі прымяніць матэматычнае мадэляванне да базавых катэгорый эстэтыкі і разгледзець эстэтычныя адносіны з дапамогай лагічнага апарата, заснаванага на такіх фундаментальных натуразнаўчых дысцыплінах як кібернетыка, тэорыя мностваў і тэорыя інфармацыі. Нядзіўна, што ў савецкім друку гэтая праца так і не з'явілася. Для апісання эстэтычных адносін суб'екта і аб'екта Н.

Крукоўскі прапануе выкарыстоўваць не звычайную бівалентную логіку, а чатырохзначную. Эстэтычныя адносіны ў любой грамадскай фармацыі, згодна навукоўцу, існуюць у чатырох відах або станах: першае стан адпавядае перыяду росквіту грамадскай фармацыі, другі – станаўленню яе, трэці – яе заняпаду, дэградацыі і чацвёрты – яе гібелі, небыццю. Такім чынам, і самыя эстэтычныя катэгорыі аказваюцца звязанымі з гэтымі фазамі. Вельмі цікавым з'яўляецца ўвядзенне навукоўцам "эстэтычнай" матрыцы, якая будуецца шляхам азначэння станаў сімваламі: +1/2 – ўваходжанне ў мноства, 1 – знаходжанне ў мностве, –1/2 – выхад з мноства і 0 – адсутнасць у мностве): дае вычарпальнае апісанне розных відаў эстэтычных адносін, якія ўзнікаюць з розных станаў аб'екта і суб'екта, дае магчымасць адрозніваць аб'ектыўны і суб'ектыўны аспекты эстэтычных адносін.

Пазней гэтыя ідэі знойдуць адлюстраванне ў яго манаграфіі "Кібернетыка і законы прыгажосці", якая выйшла ў 1977 годзе.

### *6. Эстэтыка, як сэнс жыцця.*

Любоў да эстэтыкі у М.Крукоўскага даўняя – з юнацтва і нават дзіцячых гадоў. У БДУ, нарэшце, з’яўляецца магмасць па-сапраўднаму аддаць свой магутны талент і патэнцыял вывучэнню гэтай навукі. І ён апантана кідаецца ў віхуру ідэй, тэорый, канцэпцый… Ён угулубляецца да самых асноў, да фундаменатальных паняццяў эстэтыкі. У прыватнасці, задумваецца над адвечным: “Што такое прыгажосць?” Нягледзячы на савецкую цэнзуру ён робіць прарыў у галіне эсэтычнай думкі. Праўда, апублікаваць даследаванні яму ўдалося толькі праз дзесяць гадоў пасля атрымання першых вынікаў.

У 1965 годзе ў выдавецтве "Навука і тэхніка" выходзіць манаграфія «Логіка прыгажосці». На аснове сваёй любімай гегелеўскай метадалогіі Крукоўскі прапанаваў новую для савецкай суперзаідэалагізаванай філасофіі сістэму асноўных эстэтычных катэгорый. Падрабязна разглядалася эстэтыка прыроды і *упершыню ў савецкай навуцы была распрацавана эстэтыка чалавека,* як дыялектычнага адзінства духоўнай і фізічнай яго прыгажосці. Акрамя гэтага ў манаграфіі была вылучана зусім новая для савецкай эстэтыкі канцэпцыя развіцця мастацтва як гісторыі мастацкіх стыляў.

Але афіцыйная навука не пагадзілася з ідэямі Мікалая Ігнатавіча, выкладзенымі ў «Логіцы прыгажосці». Самая папулярная ў савецкія часы “Литературная газета”, надрукавала артыкул з красамоўнай назвай: “С точки зрения лошади…” У артыкуле высмейвалася канцэпцыя Крукоўскага, якая разыходзілася з афіцыйным поглядам на эстэтыку і таму аўтаматычна залічавалася да разраду шкодных, не патрэбных савецкаму чалавеку тэорый.

“Не маглі даравацьу ЦК КПСС, які курыраваў і эстэтыку таксама, што я больш абапіраўся на Гегеля, Фрэйда, Шпэнглера, Тойнбі і Сарокіна, чым на Маркса з Леніным, што ні ў воднай з пяці напісаных кніг па эстэтыцы і лінгвістыцы не спасылаўся ні на з'езды КПСС, ні тым больш на выступленні генсекаў” – каментуе пазней сам М.Крукоўскі ў інтэрв’ю з Ю.Залозкам тую сітуацыю. Ён падкрэслівае, што “У тагачаснай, пасляваеннай беларускай зстэтыцы, якая ўяўляла сабой убогі злепак з таго, што пісалі маскоўскія і ленінградскія мэтры, панавала дзівосная сумесь цытат з класікаў марксізму-ленініэму і сырых эмпірычных фактаў мастацтвазнаўства. Мне, маладому знавукоўцу, захацелася прымяніць у эстэтыцы больш строгія лагічныя метады, абапіраючыся на Гсгеля і найноўшыя дасягненні логікі, лінгвістыкі, кібернетыкі і тэорыі інфармацыі”.

### *А-ба-ро-на!*

Нягледзячы на напісанне першай саліднай манаграфіі «Логіка прыгажосці», развіццё цэлага кірунку ў філасофіі і эстэтыцы, колькасць публікацый М.І. Крукоўскага пасля выхаду 1977 годзе кнігі «Кібернетыка і законы прыгажосці» і, фактычна, да канца 80-х гадоў ХХ ст. вельмі сціплая.

Прычына гэтага, да банальнасці простая.

Манаграфія «Логіка прыгажосці» абаранялася ў якасці дысертацыі на ступень доктара філасофскіх навук у БДУ, але была правалена маскоўскім ВАКам. Другая спроба таксама была безвыніковай.

На трэці раз, ужо ў 1982 годзе ён вырашае абараняцца непасрэдна на філасофскім факультэце Маскоўскага універсітэта – у самым цэнтры таго навуковага асроддзя, якое раней яго прац не шанавала. На гэты раз М. Крукоўскі прадставіў не толькі манаграфію «Логіка прыгажосці», але і новыя кнігі – манаграфіі “Асноўныя эстэтычныя катэгорыі. Дослед сістэматызацыі.” (1974) і «Кібернетыка і законы прыгажосці» (1977). Акрамя таго ужо ў друку была знакавая, абагульняючая ягоныя ідэі кніга «Чалавек прыгожы» (1983), якая была перакладзена і выдана на кітайскай мове.

У пранаваных творах вучоны працягваў развіваць думкі аб гармоніі біялагічнаго, сацыяльнаго, цялеснаага і духоўнага ў чалавеку. Тут ён упершыню выказвае канцэпцыю цэласнага, прыходзіць да філасофіі халізму.

Новыя творы вучонага, дадаткова прадстаўленыя ў Маскву, нават іх колькасць прыемна ўразілі Вучоны Савет Маскоўскага універсітэта. Але цяжар папярэдніх няўдалых абарон, незаслужана зганьбаваных камунасавецкай калянавуковай наменклатурай працягваў уздзейнічаць на працэс абароны.

Але на гэты раз М. Крукоўскі прыйшоў да маскоўскіх калег не толькі з новымі фундаментальнымі працамі, але і з памочнікамі і сябрамі. Прыехала дачка Вольга. У зале Мікалай Ігнтавіч нечакана ўбачыў матэматыка, з якім меў палеміку па праблеме выкарыстання тэорыі мностваў пры вывучэнні эстэтычных адносін. Вучоны прыйшоў сам, без запрашэння і гэты факт надзвычай падбадзёрыў дысертанта. Але самым прыемным было пабачыць у асяроддзі вучонага люду свайго старога партызанскага сябра – Рыгора Мікалаенку. Ён ужо стаў сапраўдным масквічом, праўда, высокіх вяршыняў у навуцы не дасягнуў – працаваў простым ліцейшчыкам. І таму яго прысутнасць сярод вучонага люду была не зусім зразумелай.

Нечакана сябра падыйшоў да старшыні паседжання і папрасіў слова. Калі паведаміў пра партызанскае мінулае спачатку запярэчылі, але цікавасць і павага да гэтага шчырага чалавека ўзялі верх. Яму далі слова.

Рыгор расказаў не толькі пра сваё знаёмства з Крукоўскім у часы вайны, але і развесяліў Вучоны Савет распавёўшы як  Крукоўскі прыйшоў у партызанскі атрад "Малады бальшавік" "разам з філосафам Гегелем!" Гэты быў не жарт – у апантанага навукай байца Мікалая Крукоўскага быў томік вялікага філосафа Гегеля. У хвіліны зацішша і спакою чытаў кнігу гэтага вялікага немца. Партызаны цярпліва чакалі, калі ён прачытае чарговую старонку, каб потым скруціць з гэтай паперы самакрутку – на паперу быў вялікі дыфіцыт. "А вось у  Гегеля мы загортвали махорку, курылі... ", – сказаў на вучоным Савеце нечаканы новы апанент і тым самым вельмі развесяліў прысутных.

Выступ сталевара вельмі спадабаўся Вучонаму Савету, твары навукоўцаў пацяплелі, напружанне знікла.

Але ўзяў слова і галоўны праціўнік канцэпцыі М.Крукоўскага, пастаянны ягоны апанент. Ён сказаў, што застаецца апанентам прац Крукоўскага, але разам з тым паважае іншую, нават процілеглую думку, якая мае абгрунтаванне і якая служыць навуцы. "А паглядзіце на ягоныя тоўстыя  кнігі. Гэта ж не тыя брашуркі, напісаныя,  да чарговага з'езду КПСС, да якіх мы прызвычаіліся". Ён адзначыў, што за апошнія 30 год – гэта першая сапраўдная абарона.  І паўтарыў: "А-ба-ро-на!"

Зразумела,  абарона цяпер завяршылася поўным трыумфам. Пры галасаванні абаронца дысертацыі М.Крукоўскі не атрымаў ніводнага чорнага шара. А потым з лёгкай рукі МГУ дысертацыя прайшла і праз "ВАК".

### *Гомо Пульхер (Чалавек Прыгожы)* .

Нягледзячы на бліскучую аброну ў Маскве, дома, у Беларусі працы М.. Крукоўскага застаюцца не прызнанымі. Ён не ўмее «прыслугоўваць" афіцыйнай навуцы. Наватар навуковец

не зразуметы і не прыняты на належным узроўні ў прагнілым савецкім грамадстве, дзе шануецца не навуковая навізна і глыбіня даследавання, а ступень адпаведнасці марксісцка-ленінскай ідэалогіі, альбо ступень прасунутасьці па партыйнай лініі. Ні тым, ні іншым, натуральна, Мікалай Крукоўскі не валодаў.



БДУ. 1982 год.

Выхад новой кнігі "Чалавек Прыгожы" прыносіць яму вядомасць нават за мяжой. У гэтым творы, перад усім, распрацована новая класіфікацыі эстэтычных катэгорый, што складаюць лагічную аснову эстэтыкі як навукі. Ён абгрунтаўвае сувязь паміж эстэтычнымі катэгорыямі і паняццем стылю у мастацтвазнаўстве. І галоўны вынік "Гомо Пульхер" – распрацаваны метад ён прымяніў для аналізу фізічнай прыгажосці чалавека і ў асаблівасці прыгажосці жаночага цела. Такім чынам была створана канцэпцыя чалавека як біясацыяльнага адзінства.

Забягаючы на перад трэба адзначыць: у часы перабудовы ў Маскве адкрываецца Інстытут чалавека, стваральнікі якога тонам першаадкрывальнікаў заяўляюць пра патрэбу для філасофіі разглядаць чалавека як біясацыяльнае адзінства. Пра канцэпцыю М.Крукоўскага, распрацаваную ў 60-я гады – у працах гэтага інстытута не сказана ні слова. Гэты факт вельмі засмучаў вучонага. Ён не аднойчы выступаў з крытыкай узурпацыі Масквой усіх навуковых распрацовак, зробленымі ў іншых краінах і абласцях.

Вось як дакладна і ёмка характэрызуе Крукоўскі гэты не проста сумны, а ганебны факт:

"Гэта нешта больш кашчуннае, чым навуковае апігонства, гэта — папранне нашага, беларускага прыярытэту ў поглядзе на чалавека як эстэтычны аб'ект. Цынічнае, без якіхсьці

хістанняў сумлення прыўлашчванне Масквою інтэлектуальных напрацовак у рэспубліках складае, на мой погляд, адну з самых ганебных і самых цьмяных старонак савецкае гісторыі. Мы яшчэ даведаемся з цягам часу, колькі нашых думак прысвоіў сабе гэтак званы Цэнтр. Усе мы гнуліся перад цэнтрам, бо гнулі нас дужа моцна: мыслілі адносна цэнтра, змагаліся за публікацыі ў цэнтральных выданнях. Я, можа, й шкадую цяпер, што пісаў свае кнігі па-руску, нягледзячы на ігнараванне маіх распрацовак маскоўска-ленінградскімі аўтарытэтамі. Для мяне навука набыла адэкватны сэнс тады, налі я пачаў мысліць адносна самога сябе і адносна сваёй, беларускай культуры, перайшоў, што называецца, з масквацэнтрычнай на мінскацэнтрычную сістэму каардынат”.

Пазней гэтыя пытанні катэгорый эстэтыкі разглядваліся ў розных артыкулах і, нарэшце, у галоўнай кнізе жыцця "Бляск і трагедыя ідэалу" (2004). Упершыню ў іншым, прынцыпова іншым ракурсе ім пададзеная сістэма эстэтычных катэгорый.

Гэтым новым падыходам з'яўляецца разгляд дынамікі духоўнага. Гістарычная дынаміка эстэтычнага – гэта і да гэтага часу практычна не запоўненая тэрыторыя навукі. Крукоўскі заклаў самы сур'ёзны тэарэтычны падмурак для апэравання дынамікай. У яго тэкстах заўсёды выяўлялась нешта такое, чаго не хапала ў сучасных даследаваннях эстэтыкі. Гэта – аб'ёмнае разуменне каштоўнасных катэгорый свету і ўніверсальнае разуменне Ідэала Чалавека Прыгожага.

Яго манаграфія «Чалавек Прыгожы» – гэта больш, чым кніга пра эстэтыку. Як сцвярджае вяждомы расійскі вучоны, загадчык кафедры Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы, доктар філасофскі навук Мікалай Аляксандраў: «Прац такога тыпу і такога ўзроўню культурнасці у свеце адзінкі, а таму я ўпэўнены ў вялікай будучыні таго, што цяпер ляжыць перад вамі. Гэта не прымітыўны ретрафутурызм, а дакладнае разуменне таго, што, колькі б ні затоптвалі ісціну, яна праб'е асфальт і прарасце новымі парасткамі. Яго працы і грамілі, і затоптвалі, «але ёсць і Божы суд».

### *7. Канец камунізма, але росквіт М.Крукоўскага як вучонага.*

Час Крукоўскага прыйшоў з пачаткам перабудовы і стварэннем Беларускага народнага фронту (БНФ). Прычым перамены крануліся усяго перыметру жыцця вучонага, ад навукі – да шматлікіх ягоных захапленняў і заняткаў.

Дастаткова паглядзець на спіс публікацый навукоўца. За дзесяць гадоў з 1977 па 1987 год паводле спісу, складзенага да 75-годдзя вучонага інфармацыйна-даведкачным аддзелам Беларускага універсітэта культуры, зафіксавана ўсяго 10 публікацый. Прычым з 1978 па 1983 год – ні аднаго артыкула! Карціна рэзка змяняецца ў 90-х гадах: 1991 – 5 артыкулаў, 1992 – 10,

1993 – 6, 1994 – 8, 1995 – 4, 1996 – 16 артыкулаў! І так да самай смерці. Пераважная колькасць публікацый – выдатных артыкулаў – напісана Мікалай Крукоўскі пасля дасягнення ім 65-гадовага ўзросту.



Крукоўскаму – 60 год.

Сваім асабістым прыкладам Мікалай Ігнатовіч нібы сцвярджае сваю пазіцыю не толькі ў філасофіі і культуры, але і ў жыцці. У выкладанні, у зносінах з людзьмі – паўсюль і дома і на працы – ён пераходзіць на беларускую мову і не адступае гэтаму правілу да канца жыцця. У 1994 годзе менавіта з-за гэтай прынцыповай пазіцыі яму даводзіцца сысці з Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Яго «папрасілі». Адправілі на пенсію.

Гэта быў, зразумела, вялікі удар. У росквіце творчых і фізічных сіл аказацца без любімай працы, без магчымасці выкладання любімых прадметаў – эстэтыкі, філасофіі, без слухачоў – студэнтаў ды і наогул зацікаўленых людзей. Што рабіць?

Але не прайшло і месяца, як ў адзін летні  дзень у кватэры былога прафесара БДУ зазваніў тэлефон:

– Алё. Спадар Мікалай Ігнатавіч?

– Так.

– Я, тэлефаную вам па справе навуковай і педагагічнай працы.

– Калі ласка, патрэбен мой водгук на артыкул? Я Вам напішу, прышліце тэкст, альбо зайдзіце да мяне…

Мікалай Ігнатвіч вырашыў, што невядомая асоба “на праводзе” шукае рэцэзію і хоча каб ён гэта зрабіў. Але якое яго было здзіўленне, калі ён раптам пачуў у адказ:

– Не, гэта Вы зайдзіце да мяне.

– ??? Як так?

– З вамі размаўляе Ядвіга Дамінікаўна Грыгаровіч. Я рэктар Беларускага універсітэта культуры. Я прапаную Вам прыйсці да нас на працу. Прафесарам кафедры філасофіі.

Так М. Крукоўскі стаў супрацоўнікам БУКа – Беларускага універсітэта культуры. І з гэтай навучальнай установай ён не развітаецца да канца жыцця. Нават у апошнія гады жыцця – тады, калі яму ужо цяжка было выкладаць, ён астаўся на полову стаўкі галоўным навуковым супрацоўнікам кафедры культуралогіі і праводзіў кваліфікаваныя кансультацыі і дапамогу ў працы над навуковымі праектамі.

У БУКу ім было напісана яшчэ дзве манаграфіі: “Філасофія культуры (уводзіны ў тэарэтычную культуралогію)” і “Бляск і трагедыя ідэалу”.

У новых сваіх працах, кнігах і артыкулах М. Крукоўскі ажыццяўляе рэфлексію пабудаванага ім свету. Ён шукае форму – як данесці да нас тое, што не змяшчаецца ў рамкі навук і дысцыплін, якія сталі традыцыйнымі. «Філасофія культуры» паказвае ўсё той жа шлях да Чалавека прыгожага, але ўжо з завоблачных вышынь метаведаў і метааксіялогіі.

Прыпынімся на некаторых  новых праблемах, што хвалявалі вучонага ў тыя часы.

*Беларуская філасофія, ці філасофія Беларусі?*

Як ужо адзначалася, асноўная маса навуковых і публіцыстычных вынікаў Міколы Крукоўскага прыходзіцца ўжо на часы незалежнай Рэспублікі Беларусі, пачынаючы з

перабудовы, нацыянальнага адраджэння Беларусі і ўзнікнення першых палітычных арганізацый нацыянальнага і дэмакратычнага кірункаў.

Ужо ў артыкуле «Нацыянальная культура – гэта не шыльда!» (1989) ён ставіць крыж на савецкім падыходзе да культуры, які абвяшчаў: «Культура павінна быць нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце". Прычым, – яму самому прыходзіцца пераадолець гэты савецкі штамп, які ўвайшоў у свядомасць кожнага савецкага навукоўца. Ён піша: «…аб'яднанне ў адзінай сям'і сацыялістычных па змесце культур – тэзіс, рамантычна-зманлівага зачаравання якога не пазбег, на жаль, у свой час і аўтар гэтага артыкула».

І ў першую чаргу ён звяртае свой позірк на жаласны стан беларускай культуры. Ён перасцерагае ідэолагаў перабудовы, якія робяць упор на выключна матэрыяльны бок: «На нашых вачах ціха канае родная беларуская культура, знікае духоўнасць і падае мараль, а мы толькі і бядуем, што няма кілбасы ды за гарэлкай вялікія чэргі». У гэтым артыкуле і ў наступных, ён фармулюе парадыгму «цэласнасці культуры як адзінства матэрыяльнага і духоўнага яе слаёў (мастацкі пласт стаіць недзе паміж імі і як бы дадаткова звязвае іх сабой). У аснове гэтага адзінства, па фігуральнаму выразу французскага культуролага Фуко, ляжыць адзінства рэчаў і слоў». М.Крукоўскі лічыць, што гэта адзінства нацыянальнага ў матэрыяльнай і ў духоўнай сферы павінна быць пакладзена ў аснову пабудовы новай беларускай дзяржавы і стаць праграмнай, ідэалагічнай падставай дзяржаўнай палітыкі. Менавіта з прычыны гэтага адзінства нацыянальныя асаблівасці будуць выяўляцца нават у эканоміцы дзяржавы, насуперак думцы касмапалітаў. Ён піша: «Створаныя ж чалавекам рэчы – істотная частка культуры, менавіта яе матэрыяльны пласт. Нацыянальная спецыфіка, зусім відавочная ў моўнай сферы, распаўсюджваецца, такім чынам, і на прадметную, матэрыяльную сферу, хоць гэта і не вельмі кідаецца ў вочы».

Цэлы цыкл артыкулаў («Мастацтва і беларуская ідэя» (1990), «Дык з кім вы, майстры беларускай культуры?» (1990), «Суверэнітэт і культура" (1991), "Суверэнітэт, культура, самасвядомасць, альбо ці патрэбна беларуская філасофія?» (1992) і інш.), напісаных на пачатку 90-х гадоў, працягваюць тыя ж надзённыя пытанні станаўлення беларускай культуры, беларускай філасофіі і шырэй – беларускай нацыі.

На пытанне: «Якой павінна быць беларуская культура?» ён дае адказ актуальны і цяпер, бо пошук нацыянальнай ідэі выйшаў, нарэшце, і на дзяржаўны ўзровень: «... мы павінны адрадзіць сваю ўласную, беларускую духоўную культуру на аснове культуры Вялікага княства Літоўскага. Нам няма патрэбы пазычаць мадэлі для такога адраджэння ў сучаснага Захаду, які знаходзіцца ў зусім іншай гістарычнай фазе і перажывае тое, што Освальд Шпэнглер назваў Untergang des Abendlandes (заняпад Захаду). Нам патрэбны свае карані, маладыя і здаровыя».

Мікалай Крукоўскі першым з беларускіх мысляроў падняў пытанне аб стварэнні беларускай філасофіі, а не развіцці нейкага адцягненага, саветызаванага прадмета пад назвай «марксісцка-ленінская філасофія", які выкладаўся у савецкія часы ў Беларусі. У артыкуле «Культура, свядомасць, суверэнітэт, або якой быць беларускай філасофіі?" (1992) ён піша: "... зкампраментаваная марксісцка-ленінская філасофія, якая прэтэндавала і на ролю “сацыялістычнай па змесце, нацыянальнай па форме” беларускай культуры, выклікала за сабой цалкам заканамернае скептычна-іранічнае стаўленне да філасофіі ўвогуле. Разам з вадой, што называецца, выплюхнулі і дзіця. Бездухоўнасць, у выніку, атрымала нейкае апраўданне...». Крукоўскі слушна заўважае, што ў такіх абставінах праблема адраджэння беларускай культуры і беларускай філасофіі набывае асаблівую складанасць. Але як жа вырашыць гэтую задачу? Зварот да магутнай спадчыны рускай філасофіі XIX – XX стагоддзяў адыграе толькі дапаможную ролю, лічыць філосаф: «Рускую філасофію трэба ведаць і вывучаць, але браць яе ў якасці духоўнага выратавальнага круга, каб выплыць у ўзбунтаваным акіяне цяперашняга бескультур'я і бездухоўнасці, было б, думаецца, таксама вялікай неасцярожнасцю перад небяспекай страціць маладзенькі наш, неспрактыкаваны яшчэ суверэнітэт і, зусім не народжаную яшчэ, беларускую нацыянальную самасвядомасць». З іншага боку зварот да дэмакратычных каштоўнасцяў Захаду таксама не дасць нам тыповай мадэлі, здольнай стаць эталонам для беларускай культуры і адраджэння нацыянальнай самасвядомасці. "Вестэрнізацыя беларускай культуры яе не адродзіць, а хутчэй наадварот, асабліва калі ўлічыць, што амерыканская культура з распадам СССР стала зараз наймагутнейшым манапалістам у свеце. Мы на сваю галаву ўжо аднойчы зарыентаваліся на Захад, запазычыўшы адтуль той жа марксізм, дык колькі нам усё яшчэ да варагаў звяртацца?» – слушна заўважае вучоны. Таму – «агледзеўшыся вакол і набраўшыся мужнасці, застаецца прызнаць адно: нам патрэбна свая, самастойная беларуская нацыянальная філасофія".

І далей, у гэтым артыкуле, як і ў наступных, ён зноў і зноў звяртаецца да праблемы канструявання беларускай філасофіі і шляхах развіцця беларускай культуры. Асабліва грунтоўна разгледжаны гэтае пытанне ў артыкуле «Культура, свядомасць, суверэнітэт ці якой быць беларускай філасофіі?» (1992), дзе ён піша: «Ні пра якую tabula rasa тут не можа быць і гаворкі: беларуская філасофія несумненна мае свае ўласныя карані і вытокі. Тут і багатае культурна-гістарычнае мінулае, і фальклор, і выдатная мастацкая літаратура, што неслі ў сабе і ярка выказвалі глыбокія, хоць і ў вобразнай яшчэ форме філасофскія ідэі. Гэта з дастатковай перакананасцю было паказана гісторыкамі беларускай культуры і філасофіі".

У сваёй апошняй фундаментальнай кнізе «Бляск і трагедыя ідэалу», а таксама ў артыкулах «Бездухоўнасць кідае выклік рыцарам высокага духу...», «Запаліць светла ў душах...», «Якая эстэтыка патрэбна сёння нашаму грамадству?», М. Крукоўскі задае вузлавой пытанне: ці існуе беларуская філасофія, а не філасофія ў Беларусі, як лічылі дыпламаваныя савецкія філосафы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў савецкія часы. Факт існавання беларускай філасофіі ён прыраўнівае да факту існавання беларускай нацыянальнай самасвядомасці. І калі прыняць факт існавання нацыянальнай самасвядомасці, – а інакш і нельга, бо без свядомасці няма і нацыі – то мы павінны прызнаць наяўнасць беларускай філасофіі. "Нацыянальная філасофія заўсёды існавала і існуе, хоць бы ў зачаткавым пакуль выглядзе. І тады ўзнікае задача яе прафесійнага развіцця і ўдасканалення..." – слушна сцвярджае Крукоўскі.

Вельмі простыя лагічныя схемы Крукоўскага уяўляюць квінтэсенцыю думкі і праймаюць ўсе творы філосафа.

### *8. Іерархія ідэалаў і канцэпцыя беларускай нацыянальнай ідэі.*

"Бляск і трагедыя ідэалу" – гэта выніковая, фундаментальная праца прафесара Крукоўскага, у якім ён праектуе свае погляды на ідэалы сучаснага беларускага грамадства. Праз прызму ідэалаў фармулюецца аўтарам і беларуская нацыянальная ідэя. Ён піша: "... менавіта ў нацыянальнай ідэі, як у своеасаблівым аптычным фокусе або цэнтры мас, аб'ядноўваюцца і абстрактна-духоўныя ідэалы, і пачуццёва-акустычная матэрыяльнасць мовы як выразніка народнай душы, што ў цэлым ўплывае і на мастацкую, і на матэрыяльную культуру народа, аб'ядноўваючы ўсё гэта ў адзіную сістэму нацыянальнай культуры наогул».

Філосаф Крукоўскі прапануе разумець нацыянальную ідэю як адзінства ідэальнага і рэальнага. І ў гэтым выяўляецца дыялектычнае разуменне ісціны як адзінства супрацьлегласцяў. Нацыянальная беларуская ідэя разумеецца ім як ўвасабленне духу і самасвядомасці народа, здзейсненае ў беларускай незалежнай дзяржаве (рэальная частка цэлага) і "маральнай ідэі, выказанай на роднай мове і адухоўленай хрысціянскай царквой" (ідэальная складнік). "Падобна да таго, як сукупнасць біялагічных індывідаў ўтварае сабой від Homo sapiens, так і больш канкрэтная сукупнасць асоб ўтварае грамадзянскую супольнасць – нацыю, людзей аб'яднаных нацыянальнай свядомасцю, гэтай саборнай душы народа, аб'яднаных тым, што і было тут названа вышэй – беларускай ідэяй", – піша філосаф.

Мне б хацелася б падкрэсліць думку пра беларускую нацыянальную ідэю, як саборную душу народа. Сапраўды, сабornасць – найважнейшы прынцып пры канструяванні беларускай нацыі і фармаванні беларускага нацыяналізму.

Прынцып сабornасці разглядаецца М. Крукоўскім у сувязі з больш агульным сістэмным падыходам, які займае важнае месца ў яго філасофіі. У іерархіі каштоўнасных катэгорый першасным выступае ідэал. На падставе сістэмнага падыходу будуецца іерархічная сістэма ідэалаў. Ідучы зверху ўніз, згодна з канцэпцыяй філасофа, вяршыняй такой іерархічнай сістэмы ідэалаў ёсць ідэя Бога, як абсалютнага каштоўнасна-духоўнага арыентыру. "Ідэя Бога мае універсальны характар, і ў ёй як у вяршыні піраміды, канцэнтруюцца як законы прыроды, так і ўсе ідэалы і духоўныя каштоўнасці чалавецтва ...". Наступнай ідэяй (або узроўнем – *А. А.*) у Крукоўскага выступае космас і прырода як жывое, канкрэтнае ўвасабленне Бога. Абапіраючыся на пантэістычнай пазіцыі, ён разглядае прыроду як жывое, матэрыяльнае цела Бога.

Ідэя чалавецтва і сам чалавек выступае ў Крукоўскага наступным узроўнем ў іерархіі ідэалаў. Але чалавек разглядаецца не толькі як матэрыяльна-біялагічны індывід, але як "духоўная, надзеленая Боскім розумам істота, як Індывідуальнасць".

Далей, сістэма ідэалаў разгортваецца наступным чынам.

Першую пазіцыю займае нацыянальная беларуская ідэя (аўтар выкарыстоўвае такі парадак слоў). "Менавіта нацыянальная ідэя, калі развіць далей гэтую думку вялікага Гегеля, узвёўшы яе аж да апостала Паўла, як раз і матэрыялізуе ў сабе самастойнасць і незалежнасць беларускага грамадства, утвараючы сабой шматпавярховую піраміду, у аснове якой ляжыць нацыянальная культура, уключаючы і культуру матэрыяльную".

Наступным, больш нізкім узроўнем ідэалаў ёсць "класавая салідарнасць». Як чалавек выхаваны ў сістэме марксісцка-ленінскай філасофіі, прынамсі, будучы выкладчыкам гэтага курсу ў савецкія часы, Мікалай Ігнатавіч, зразумела, не абыходзіцца без паняцця класаў у гэтай іерархіі. Тым не менш, класічны варыянт будаўнічага матэрыялу грамадства, не гледзячы на сваю архаічнасць, заслугоўвае не меншай увагі, хоць бы таму, што ўзбагачае агульнае бачанне развіцця грамадскіх працэсаў, дапамагае пабудаваць больш багатую, усебакова узважаную канцэпцыю.

Услед за класавай салідарнасцю ў канцэпцыі Крукоўскага змяшчаюцца ідэалы «прафесійнае дасканаласць», і затым «сямейны дабрабыт». Замыкае іерархію – «асабіста-маральная годнасць» асобнага чалавека.

Самае істотнае ў разгледжанай іерархіі тое, што ў аснове ўсіх грамадскіх ідэалаў у Крукоўскага ляжыць беларуская нацыянальная ідэя, як аб'ядноўваючая, цэнтральная каштоўнасць. Менавіта ад яе выпраменьваюцца ўсе астатнія каштоўнасці.

Аўтар прапануемай чытачу кніжкі  шэраг год займаўся канцэпцыяй беларускай нацыянальнай ідэі і сутнасці беларускага нацыяналізму. Было напісана досыць шмат артыкулаў, якія друкаваліся ў незалежнай прэсе. Дзякуй Богу, у другой палове 90-х гадоў ХХ – пачатку ХХІ стагоддзя, гэта не было праблемай. Але паступова паўстала пытанне аб абароне доктарскай дысертацыі ў гэтай галіне. Трэба было апублікавацца ў, так званых, «рэцэнзуемых» навуковых часопісах. І вось быў напісаны артыкул: "Неадназначнасць паняццяў нацыяналізм і фашызм у дыскурсе сучасных ідэалогій", які меркавалася падаць у прэстыжнае акадэмічнае выданне Рэспублікі Беларусь – «Весці Нацыянальнай Акадэміі Навук». Але патрэбна была рэкамендацыя вядомага вучонага, доктара навук. Аказалася, што рэкамендацыю ўзяць – не так і проста, пужала слова «нацыяналізм», якое ў беларускіх навуковых колах па-ранейшаму знаходзілася пад негалосным табу. Прафесар Мікалай Крукоўскі склаў выключэнне з гэтага сумнага шэрагу рэтраградаў. Ён быў вышэй ідэалагічнага ціску на беларускую філасофскую думку, што нязменна дэманстраваў на працягу ўсёй гісторыі незалежнай РБ. Ён дае рэкамендацыю. Артыкул быў надрукаваны ў "Весцях» (Серыя гуманітарных навук. 2003. №1).

У гэтым жа годзе ён піша ўступны артыкул да маёй манаграфіі "Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце" і станавіцца навуковым рэдактарам гэтага выдання. Яго цудоўны артыкул «Сучасны свет і беларуская ідэя» (2003), служыў уступленнем да гэтай кнігі. Менавіта тут Мікалай Крукоўскі фармулюе свой погляд ужо не проста на беларускую ідэю, як у ранейшых творах, а  на беларускую нацыянальную ідэю. Ён піша:

"…сучасная палітычная лінія кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь свядома вядзе да крайняга абвастрэння крызіснай сітуацыі, імкнучыся поўнасцю знішчыць беларускую нацыянальную культуру. Сцвярджаецца, быццам яно ў той жа час адстойвае суверэнітэт Беларусі, але на самой справе суверэнітэт ў гэткай сітуацыі ператвараецца ў цалкам пустую юрыдычную фармальнасць. Аб тым гаворыць, напрыклад, зробленае прэзідэнтам Расіі Пуціным куды больш прамое і цынічнае, скажам так, параўнанне беларускай эканомікі з катлетамі, а суверэнітэт разам з беларускай нацыянальнай культурай і нацыянальнай самасвядомасцю беларускага народу – з мухамі. Але і эканоміка таксама ўяўляе сабою нацыянальную культуру і менавіта культуру матэрыяльную, цесна звязаную з духоўнай культурай. Нацыянальная культура ўключае ў сябе не толькі каштоўнасці чыста духоўнага жыцця народу, але і каштоўнасці яго пачуццёва-матэрыяльнага бытавання. І тым болей далейшае развіццё яе магчыма толькі ў абставінах заховы незалежнасці і суверэнітэту як і наадварот суверэнітэт можа існаваць толькі на базе развітай нацыянальнай культуры. Усё гэта якраз і абыймаецца ў рэальнасці глыбокім і ёмкім па зместу словазлучэннем “нацыянальная ідэя”.

### *9. Грамадская і навуковая дзейнасць у 90-я гады XX ст. – пачатку XXI ст.*

За часы ад пачатку перабудовы (прыкладна з 1989 г. і да канца жыцця) апублікаваў каля 150 артыкулаў на навуковыя і грамадскія тэмы. Актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю.

Разам з Уладзімірам Кананам, ён становіцца вядучым тэарэтыкам, галоўным ідэолагам беларускага нацыянальнага адраджэння 90-х гадоў.



Крукоўскі на шэсці БНФ.

Крукоўскі становіцца цэнтральнай фігурай на канферэнцыях, семінарах нацыянальна-дэмакратычнага руху, які ўзначальваў Беларускі народны фронт (БНФ). З самага дня заснавання з'яўляўся сябрам сойму Руху і партыі Беларускага народнага Фронту (БНФ), а пасля раздзялення – партыі, якую ўзначаліў Зянон Пазьняк – Беларускай кансерватыўна-хрысціянскай партыі (КХП-БНФ). З 1991 года (з дня заснавання партыі) уваходзіць у склад Праўлення Беларускай Хрысціянска-дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ). У 1994 годзе М.Крукоўскі прыняў удзел у рэаргаганізацыі партыі Беларуская Хрысціянска-дэмакратычная Злучнасць. 4 снежня 1994 г адбылася Устаноўчая канферэнцыя Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі. У Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь партыя была зарэгістравана 21 сакавіка 1995 года. Устаноўчая канферэнцыя прыняла Праграму і Устав БХДП, над якімі шчыльна працаваў М.Крукоўскі. Ён быў абраны старшынёй партыі.



Ветэраны Вялікай Айчыннай Вайны БНФ. 9 мая 1995 года.

У 90-я гады ён піша не толькі навуковыя артыкулы. Ён публікуе мноства папулярных артыкулаў на надзённыя тэмы, выступае з палемічнымі матэрыяламі, вядзе публічныя дыскусіі з living рознымі дзеячамі культуры, навукі і палітыкі.

Пачатак 90-х гадоў адзначаўся павальнай крытыкай усяго звязанага са словамі савецкі, ленінскі, камуністычны і г.д. З'явіліся артыкулы накіраваныя на пераацэнку савецкай перамогі ў 2-й сусветнай вайне. З'явіліся папулісцкія публікацыі накіраваныя на адмаўленне ролі партызанскага руху ў час вайны ў Беларусі. М. Крукоўскі, чалавек, які прайшоў усю вайну партызанам у Аршанскіх лясах, які кіраваў штабам атрада 26-й партызанскай брыгады імя К.С. Заслонава – ня мог стаць абыякавым назіральнікам ашалелага паклёпу на беларускіх партызан. Ён піша шэраг гнеўных артыкулаў, дзе, з уласцівымі яму сумленнасцю і праўдзівасцю, малюе гераізм нашых лясных ваяроў, не адмаўляючы, зрэшты, асобных выпадкаў здрады. Асабліва ўзрасла цікавасць да тэмы партызанкі пасля выхаду кнігі Ю.Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дзе партызаны разглядаліся як людзі, пакінутыя для дапамогі органам НКВД і пры гэтым мясцовае насельніцтва, на думку аўтара, баялася як немцаў, так і партызан. У сваім інтэрв'ю «Голасу Радзімы» ён кажа: «Я не згодны з Туронкам у яго ацэнцы партызанскай вайны ў Беларусі, бо яна якраз супадае з ацэнкай камуністычнай, што, маўляў, партызанскі рух быў арганізаваны кампартыяй, а беларусы толькі і рабілі, што хаваліся то ад партызан, то ад немцаў. Крайнасці, як заўсёды, сыходзяцца».

Ён мужна пераносіць брудныя абразы, нанесеныя яму, ды і ўсяму беларускаму народу, які прайшоў вайну, і горда піша: «Масавы партызанскі рух на нашай тэрыторыі я называю «Беларускім супрацівам» і прапаную пісаць яго з вялікай літары, таму што ён быў не менш

моцны, чым французскі рэзыстанс. Партызаны былі сапраўды беларускімі сынамі, і лічыць нас агентамі НКУС, ці яшчэ каго-небудзь, было б вельмі несправядлівым».

Крукоўскі даносіць да нас праўду пра партызанаў з першых вуснаў і яму нельга не верыць: "Сталін не давяраў партызанам, таму што армія гэтая паўстала не непасрэдна па яго загаду, і не з тых людзей, што былі пакінутыя ў тыле, а па ўласным жаданні. Сапраўдная партызанская вайна разгарнулася вельмі шырока ў Беларусі дзесьці ў 43-м годзе, калі людзі ўбачылі і імгненна зразумелі, што прышлыя страшней тых, хто быў тут да іх». У гэтых словах прафесара няма паддобрыванняў перад махавіком савецкай прапаганды, які малюе партызан гэткім авангардам КПСС, тут адлюстравана, уласна, сутнасць партызанскай вайны – як народнага руху супраць нямецкіх акупантаў.

### *10. Светапогляд Крукоўскага*

Светапогляд Крукоўскага надзвычай шырокі. Ён адным з першых выкарыстоўвае ў сваех навуковых пошуках сістэмны падыход. Менавіта дзякуючы гэтаму ўніверсальным светапогляду і цудоўнай эрудыцыі ён заўсёды быў у курсе самых новых навуковых ідэй і канцэпцый філасофіі. Крукоўскі, развіваючы ідэі Шпенглера, Тойнбі і Сарокіна, вылучае сваю канцепцыю цыклічнага развіцця чалавецтва. Ён не цураецца матэматыкі, добра арыентуецца ў кібернетыцы і фізіцы. Заўсёды ў курсе дасягненняў інфармацыйных тэхналогій. Ён піша шэраг артыкулаў, дзе наўпрост выкарыстоўвае такую далёкую для філосафаў вобласць навукі, як аснова матэматыкі – тэорыя мностваў і матэматычная логіка.

Кожны артыкул прафесара Мікалая Крукоўскага – гэта багацце зместу, думак, глыбокіх, часта нечаканых высноў. Незалежна пра што піша вучоны – аб улюбёнай эстэтыцы, філасофскіх праблемах быцця, альбо дыскутуе аб надзённых праблемах грамадства – усюды яснасць думкі і дзіўная эрудыцыя.

Вось, напрыклад, артыкул «Ці ўратуе нас прыгажосць?», надрукаваны ў газеце «Культура». Сярэдне адукаваны чытач выдання «Культура» у сувязі з гэтым, вядома, успомніць Ф.М. Дастаеўскага і яго знакамітае: «Прыгажосць выратуе свет». А якім чынам, выратуе? І ці сапраўды – гэта так? Людзі знаёмыя з эстэтыкай могуць пажангліраваць яшчэ класікамі, ўспомняць Гегеля і яго: «прыгожым з'яўляецца той прадмет, у якім праз яго натуральную, матэрыяльную абалонку «прасвечваецца» ідэя, дух, Бог».

Для аналізу паняцця прыгажосці М. Крукоўскі зноў такі выкарыстоўвае сістэмны падыход. Ён піша: «Дастаеўскі горача спадзяваўся, што толькі прыгажосць і выратуе свет. Менавіта таму прыгажосць выходзіць далёка за рамкі толькі эстэтычных каштоўнасцяў, што рэалізуюцца пераважна ў сферы мастацтва. Яна адыгрывае ў жыцці чалавечага грамадства

нешта накшталт своеасаблівага тэрмометра, які паказвае, наколькі нармальнае і здаровае гэта жыццё ў цэлым. Паказвае амаль з матэматычнай дакладнасцю, і, што самае галоўнае, паказвае аб'ектыўна, рэальна, а не па якому-небудзь суб'ектыўнаму самаадчуванню».

Ніхто яшчэ так матэрыяльна-адчувальна не пісаў пра прыгажосць і не набліжаў гэтае абстрактнае паняцце эстэтыкі да практычнай жыцця.

У артыкуле М. Крукоўскага мы бачым магутны палёт думкі, які ахоплівае ўсе гістарычныя часы і погляды самых розных людзей. Я толькі пералічу іх імёны, згаданыя ў гэтым артыкуле, так ці інакш увязаныя вучоным з катэгорыяй прыгажосці. Тут антычныя філосафы: Геракліт, Платон, нямецкія класікі Кант і Гегель, Вальтэр і Ясперс, рускія: Салаўёў, Фларэнскі, Шэстаў, Лосеў. С. Булгакаў, М. Бахцін, Н. Бярдзяеў.

Гіганты мастацтва класікі Моцарт і Рафаэль, іх антыподы – заснавальнікі абстракцыянізму і таксама геніі – Шагал і Малевіч, паэт Кірылаў. Футурыст Уладзімір Маякоўскі. Рэвалюцыянеры Жалябаў, Пяроўская. І наш зямляк, – прыемна падкрэслівае Крукоўскі – Ігнат Грынявіцкі.

Чарнышэўскі. Лаўроў, Пляханаў і Герберт Спенсер.

Ланцужок камуністычных правадыроў: Бакунін, Желябов, Пляханаў, Ленін, Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў, Чарненка.

І тут жа: маскоўскі крытык Карабчыеўскі, казачнік Андэрсан, палюсы рэвалюцыі Вера Фігнер і Лаўрэнці Берыя.

Далей: даю толькі прозвішчы – Гамер, Караленка, Іван Грозны і Ямелька Пугачоў ... і тут жа: эканамісты Кейнс і Фрыдмен. Вялікі Эдгар По і, чамусьці, скандальны Лімонаў. Герберт Рыд.

Джамбатыста Віко. І, вядома, любімыя мысляры – Тойнбі і Сарокін.

Сюрэаліст Сальвадор Далі. Лукіно Вісконці ў яго фільме "Сямейны партрэт у інтэр'еры",

І, нават, аўтарытэтныя знаўцы, такія як Д. Ліхачоў і М. Алпатов.

Лавіна інфармацыі. Паток думкі. Чытаючы гэтую працу як і любую іншую, чытач міжволі зачароўваецца глыбінёй мыслення і атрымлівае асалоду ад прыгажосцю высноў філосафа. Паток інтэлектуальнай энергіі гэтага чалавека здаецца невычэрпным. У гэтым жа артыкуле Мікалай Крукоўскі аперуе цытатамі на англійскай, нямецкай, латыні, французскай. І гэта ўсё на 11 старонках тэксту!

І ў канцы артыкула выразны адказ на пастаўленае ў загалоўку пытанне:

«*Прыгажосць – гэта адначасова і сродак і мэта. Яна ёсць ідэальны стан, рэалізаваўшы які, мы сапраўды выратуем і сябе і прыгажосць, і не толькі выратуем, але і расквітнеем самі*».




“Я ведаю, што такое ідэалы!” 2009 г.

Здольнасці М.Крукоўскага праяўляліся у самых розных галінах чалавечай дзейнасці. Вышай ужо адзначалася, што ён лёгка валодаў і выкарыстоўваў цытаты на самых розных мовах. І гэта не дзіва. У яго была фенаменальная памяць. Яшчэ пад час працы Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР ён прыйшоў да наступнай высновы: ня гожа філолагу-лінгвісту не ведаць еўрапейскіх моў. І ажыццявіў гэтую устаноўку на сваім асабістым прыкладзе. Ён чытаў і мог парузумецца на нямецкай, английскай, французскай мовах. Польскі і чэшскі вывучыў так, что в пры зносінах з насьбітамі гэтых моў – палякамі и чэхамі яны не маглі вызначыць – адкуль ён. Быў знаёмы з іспанскай і турецкай мовамі.

А ў 90-х гадах, маючы за плячамі ўжо 60 год М.Крукоўскі сядае за падручнік старажытнагрэцкай мовы. Нагодай было тое, што чытаючы Евангелле, ён засумняваўся ў дакладнасці перакладу слоў «чэрнь», «натоўп» і, асабліва – «народ». І вырашыў прачытаць гэтыя галавы Евангелля ў арыгінале.

Навуковыя інтарэсы Крукоўскага былі вельмі шырокія, яны ахоплівалі сабой філасофію, мовы і мовазнаўства, эстэтыку і культуралогію. Ён засяроджваецца на логіка-метадалагічнай праблематыцы названых навук. На аснове гегелеўскай традыцыі ім створана арыгінальная эстэтычная канцэпцыя, якая ўключае структурна-функцыянальны падыход агульнай тэорыі сістэм. Ён ўвязвае свой падыход да эстэтыкі з любімай гегелеўскай дыялектыкай, і прапануе сваю канцэпцыю цыклічнага развіцця культуры. Характэрна, што прапанаваная ім канцэпцыя датуецца 1965 годам і распрацавана незалежна ад Шпенглера, Тойнбі і Сарокіна, тады малавядомых яшчэ ў савецкай навуцы. У тых жа ранніх працах, амаль на дваццаць гадоў абагнаўшы С. Хантынгтана, была пастаўлена вострасучасная праблема ўзаемадзеяння розных культур.

Не толькі Я.Д. Грыгаровіч паставілася станоўча да фігуры М.Крукоўскага. З 1998 года ён з’яўляецца навуковым супрацоўнікам (на палову стаўкі) ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францыска Скарыны, які заснаваў і доўгі час узначальваў вядомы беларускі вучоны Адам Мальдзіс. Ён удзельнічае ў навуковых тэмах Цэнтра, робіць даклады на навуковых канферэнцыях Цэнтра і друкуецца ў часопісе “Дыялогі”.

Акрамя навуковай і грамадскай працы праф. М. Крукоўскі да вельмі паважанага ўзросту чытаў у Беларускім універсітэце культуры лекцыі па эстэтыцы і філасофіі. Пры гэтым узровень яго лекцый заўсёды адпавядаў самым апошнім дасягненням сусветнай навукі.

Досыць часта М.Крукоўскі выказвае крытычныя выказванні ў дачыненні да дзейнасці мадэрнісцкага філосафа Валянціна Акудовіча, творчага аб'яднання "Бум-Бам-Літ", рэдакцыі часопіса "Arche" і кіраўніцтва Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта. Усіх іх Крукоўскі ў той ці іншай ступені атаясамліваў з праявамі постмадэрнісцкай плыні, нязменна падкрэсліваючы шкоднасць распаўсюджвання гэтай тэндэнцыі на ўзроўні грамадскай свядомасці. Сказаць, што ён недалюбліваў постмадэрністаў, было б недастаткова.

Ён іх проста не пераносіў.

М.Крукоўскі угледжваў у іх дэструктыўны ўплыў на традыцыйныя падмуркі культуры і наўпрост сцвярджаў, што "так званы постмадэрнізм раз'ядае, нібы ракавая пухліна, духоўную культуру народа".

Ужо згаданы вядомы расійскі навуковец М. Аляксандраў, які лічыць сябе вучнем Мікалая Ігнацьевіча, піша: «У праграме эстэтычнага развіцця патрэбныя былі адказы не толькі дакладныя, але і усеагульныя. Таму сам таго не ведаючы, я пісаў сваю эстэтыку, сінтэзуючы ўсё вартае не толькі на ўзроўні тэорыі. Самым вартым стаў метад Крукоўскага, які, вядома ж, абапіраўся і на Гегеля і на многіх іншых цыклістаў. Паколькі я жудасна паслядоўны чалавек, я

гэтую тэму эстэтычных цыклаў раскручваю да гэтага часу: з 1980 па 2013, – 33 гады. І мне, пакуль, не сумна. З таго часу я напісаў 46 кніг, а ў развіццё вучэння Крукоўскага – больш за палову з іх».

Навуковыя інтарэсы Крукоўскага маюць шырокі абсяг, ахопліваючы сабою філасофію, лінгвістыку, эстэтыку і культуралогію і засяроджваючыся на логіка-метадалагічнай праблематыцы азначаных навук. На аснове гегелеўскай традыцыі ім створана і прапанавана арыгінальная эстэтычная канцэпцыя, уключаючы сюды і структурна-функцыянальны падыход агульнай тэорыі сістэм, якую ён трактуе ў цеснай сувязі яе з гегелеўскай дыялектыкай, і канцэпцыю цыклічнага развіцця культуры, што была прапанаваная ім яшчэ ў 1965 г. незалежна ад Шпенглера, Тойнбі і Сарокіна, тады малавядомых яшчэ ў савецкай навуцы. У тых жа працах, амаль на дваццаць год абагнаўшы С. Хантынгтана, была пастаўлена вострасучасная праблема ўзаемадзеяння розных культур. Усе гэтыя пытанні ў абагульненай форме разглядаюцца ў апошняй манаграфіі “Бляск і трагедыя ідэалу”, выдадзенай выдавецтвам “Беларускі кнігазбор” у 2004 г.

М. Крукоўскі першым з мысляроў Беларусі ХХ стагоддзя ужыў для абгрунтавання і развіцця сваёй канцэпцыі тэорыю цыклічнага развіцця грамадства. У адрозненне ад Еўропы, перажываючай перыяд заняпаду (гл., напрыклад, – О.Шпеглер "Заход Еўропы"), Беларусь, знаходзіцца ў стадыі ўздыму. І ёй прарочана вялікая будучыня. – "Адсюль заканамерна вынікае яшчэ адна жаданая рыса беларускай філасофскай культуры – яе гістарычны аптымізм. Без яго ў прынцыпе не можа быць дасягнута галоўная мэта адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, насычанай уласнай самасвядомасцю і філасофіяй. Ідэал наш яшчэ наперадзе, і нам зусім не патрэбны той змрочны скепсіс і песімістычны нігілізм, што раз'ядноўвае, на жаль, сучасную амерыкана-еўрапейскую духоўнасць».

Пошуку ідэалаў М. Крукоўскі прысвяціў большую частку свайго жыцця. Асабліва ўзрос яго цікавасць да гэтай высокай мэты менавіта з 90-х гадоў ХХ ст. і пазней, да самага канца жыцця, пры асэнсаванні пытанняў, звязаных з адраджэннем беларускай нацыянальнай культуры.

Распачынаецца гаворка пра ідэалы артыкулам «Ці ўратуе нас прыгажосць?», які быў надрукаваны ў газеце «Культура» ў 1993 годзе. Затым ідзе шэраг выдатных тэкстаў: «Бездухоўнасць кідае выклік рыцарам высокага духу» (1996), «Запаліць святло ў душах ...» (1997), «Сацыяльны ідэал і беларуская ідэя» (2002), «Якая ж эстэтыка нам патрэбна?» (2003), «Прыгажосць выратуе свет з чалавечым тварам!» (2009), «Ці патрэбныя нам «праменныя вышыні» ідэалу?» (2010). Вянчае гэтую серыю фундаментальны твор, кніга «Бляск і трагедыя

ідэалу» (падзагаловак «Філасофскія эцюды аб ідэалах, дэмакратыі і суверэнітэце»), выдадзеная ў 2004 годзе.

Звяртаючыся да сваёй роднай тэмы ідэалаў, М. Крукоўскі успамінае беларускага філосафа Ігната Канчэўскага (Абдзіраловіча), які, яшчэ ў 1921 годзе, пісаў: «Нашы часы – часы агульнай заблытанасці, часы паўстання праменных быццам ідэалаў і іх канечнага знікання праз нядоўгі час... Тое, што раней здавалася чыстым і светлым, штодзённа аплятаецца жыццёвым брудам і пылам. Так знікаюць праменныя ідэалы, пакідаючы роспач і безнадзейнасць. У такія часы адзінокая чалавечая душа шукае, пераглядаючы ўсё тое, што здавалася каштоўным, святым і жаданым». Яго словы сталі прароцкімі, і ў наш час, як ніколі, актуальнымі. «Праменныя вышыні» ў сапраўднасці апынуліся «праменнымі праваламі». «Аднак, і тое, што прыйшло ім на змену, аказалася яшчэ паскуднейшым, бо было адкінута ўжо і само паняцце ідэалу ўвогуле», – з горыччу піша Мікалай Ігнатавіч.

Чаму так адбылося? Натуральна – гэта вынік больш чым 70-гадовага насаджэння ў грамадстве марксісцкай ідэалогіі, якая адмаўляла ідэалізм і ўслед за ім такія адцягненыя, на першы погляд, ідэалы як прыгажосць, любоў і г.д. Ён заўважае: «Але і аб’ектыўнае існаванне ідэалу таксама не дапушчалася, бо тады трэба было прызнаць і аб’ектыўны ідэалізм, а ўслед за гэтым і існаванне Бога, што для марксісцкае ідэалогіі ў прынцыпе было тым болей недазваляльным як дарога, па ленінскаму знакамітаму выразу, “к боженьке»... І далей: «Гэта неразумнае проціпастаўленне двух філасофій – ідэалізму і матэрыялізму, проціпастаўленне ўзаемавыключнае і, па сутнасці, абсалютна варожае адно аднаму. На гэтым проціпастаўленні, як вядома, у камуністаў базіравалася класавая барацьба і замацоўвалася яна звычайна несправядлівасцю, а то і крывавым прымусам».

Абапіраючыся на найноўшыя дасягненні навукі, у першую чаргу, агульную тэорыю сістэм, Крукоўскі прыходзіць да думкі, што і ідэальнае таксама існуе і мае аб'ектыўны характар. «Калі ў чалавека, як суб’екта пазнання, мы назіраем і яго ідэальны розум, і яго матэрыяльна-пачуццёвае цела, так і ў знешнім яму аб’ектыўным свеце няцяжка ўбачыць два адпаведныя таму бакі. Гэта, як даводзіць нам агульная тэорыя сістэм, агульная, ідэальная *структура* сусвету і складаючыя яе матэрыяльныя *элементы*».

Зыходзячы з гэтай, па сутнасці светапогляднай філасофіі, М. Крукоўскі фармулюе і парадыгму чалавека культурнага: «Тое, што культура сапраўды ўяўляе сабой адбітак самога чалавека, бачна ўжо з першага погляду на агульную сістэму культуры. Як і сам чалавек, яна ўяўляе сабою своеасаблівае адзінства духоўнай і матэрыяльнай субкультур, якія часта таксама называюцца культурамі, чым падкрэсліваецца іх адносна самастойны характар. Гэтыя больш прыватныя культуры таксама супрацьстаяць адна адной, як душа і цела ў самым чалавеку. Але

гэтак жа, як і ў чалавеку, яны непарыўны і звязаны адна з другой, утвараючы сабою адзіную сістэму культуры ў цэлым». Мікалай Ігнатавіч, з'яўляючыся паслядоўным вучнем, як ён сам неаднаразова казаў, вялікага Гегеля – віртуозна выкарыстоўвае дыялектычны падыход да ідэалаў. І прыходзіць да дзіўнай высновы: «Увогуле ідэал насычае сабою ўсю культуру на ўсіх яе ўзроўнях, пачынаючы з культуры духоўнай, дзе ён выразна бачыцца на першым месцы ўжо з самага свайго вызначэння, і канчаючы культурай матэрыяльнай». Застаецца пагадзіцца з мысляром і шкадаваць аб тым, што як далёкія цяпер сучасныя беларускія, ды і не толькі беларускія, ідэолагі ад гэтых сапраўды вялікіх словаў.

### *11.Партыйная дзейнасць*

Мікалай Ігнатовіч Крукоўскі піша не толькі артыкулы на свае ўпадабаныя філасофскія тэмы, ён заўсёды ў курсе падзей, заўсёды жыва адгукаецца на іх і заўсёды на дзіва дакладна фармулюе рашэнне самых розных праблем. Так, пасля далучэння да партыі БХДЗ (Беларускай Хрысціянска-дэмакратычнай Злучнасці), (у наступстве, пасля падзелу БХДЗ на дзве незалежныя партыі ён ачоліў адну з іх), М.Крукоўскі фармулюе асноўныя палажэнні беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У артыкуле «Вера, надзея, любоў і хрысціянская дэмакратыя», напісанай яшчэ ў 1993 годзе, ён кажа: «Хрысціянская дэмакратыя і палітычныя арганізацыі і супольнасці, якія стаяць на яе пазіцыях, не з'яўляюцца канфесійна-рэлігійнымі і тым больш клерыкальныя-царкоўнымі арганізацыямі. Яна толькі абапіраецца на асноўныя маральныя прынцыпы, выкладзеныя некалі ў Евангеллі, якія ляглі ў падмурак ўсёй еўрапейскай культуры».

Для посткамуністычнай Беларусі гэта было зусім новым і нечаканым, таму незразумелым.

Ён апярэджваў эпоху мінімум на некалькі дзесяцігоддзяў. У тым жа артыкуле, выказваючыся аб статусе нашых кіраўнікоў, ён раскрывае сэнс евангельскага выслоўя «Ўсякая ўлада ад Бога": Не страх перад гвалтам, а маральны аўтарытэт – вось асноўная сіла і моц хрысціянска-дэмакратычнай дзяржавы. Менавіта гэта і мелася на ўвазе ў вядомым евангельскім тэзе "Ўсякая ўлада ад Бога". Улада, як эталон маральнасці – пра гэта даводзіцца толькі марыць.

### *12.Апошні рыцар навукі.*

Не выпадкова тое, што апошнія гады жыцця М. Крукоўскі працаваў у Беларускім універсітэце культуры. Тут ён заклаў асновы новага для постсавецкай эпохі курса – культуралогіі. Вось як піша ягоная вучаніца, кандыдат культуралогіі, пісьменніца Ірына Шумская: Мікалай Ігнатавіч быў менавіта Культуролагам з вялікай літары, нягледзячы на

наяўнасць ступені доктара філасофскіх навук (зрэшты, дактароў культуралогіі тады яшчэ не рыхтавалі). На карысць гэтага можа сведчыць мноства глыбокіх аналітычных артыкулаў па фундаментальнай культуралогіі і цвёрдае адстойванне канцэпцыі цыклічнага развіцця сацыякультурных працэсаў, якую Крукоўскі самастойна пачаў распрацоўваць яшчэ ў 60-я гады.



Прафесар М.І.Крукоўскі з любімай вучаніцай Ірынай Шумскай.

Ва ўсіх працах Крукоўскага існуе незвычайная яснасць у асэнсаванні аксіялогіі. Кожная праца філосафа – ад манаграфіі да невялікага артыкула заўсёды ўтрымлівае цэлае і яно больш любой асобнай абмяркоўваемай тэмы.

У апошніх артыкулах М. Крукоўскага «Катэгорыі цыкла і суперцыкла ў тэарэтычнай культуралогіі» (Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў. – 2010), «Ці патрэбныя нам «праменныя вышыні »ідэалу?» (2010) і «Філасофія цэласнасці ідэальнага і матэрыяльнага у прыродзе і грамадстве. Канцэпцыя халізму» (2013) філосаф, адчуваючы свой блізкі адыход, нібы падводзіцца падсумаванне шматгадовай дзейнасці.

У першым са згаданых артыкулаў, ён здзяйсняе квінтэсенцыю адной з самых любімых філасофскіх канцэпцый, з якой ён не раставаўся ўсё жыццё – аналізуе тэорыю цыклічнага развіцця гісторыі. Думка пра цыклічным развіцці грамадскіх фармацый была цэнтральнай ідэяй М. Крукоўскага. Гэтая цыклічнасць, якая бярэ вытокі яшчэ ў антычнасці, у працах Гесіёда і Платона, атрымала развіццё ў італьянскага філосафа Жанбатыста Віко і, нарэшце, Гегеля, ён надае дыялектычны характар, дынаміку і развіццё. М. Крукоўскі, з'яўляючыся паслядоўнікам

Гегеля, развівае ўяўленне аб цыклічнасці ў гісторыі. Ён выкарыстоўвае і развівае блізкія канцэпцыі цыклічнасці сучасных мысляроў – О. Шпэнглера, Л.Дж. Тойнбі і, асабліва шанаванага навукоўцам – П.А. Сарокіна. Крукоўскі разгортвае цыклічнасць гісторыі ў часе, так што ход развіцця грамадскіх фармацый нагадвае спіраль. Калі спраектаваць гэтую спіраль на плоскасць, то атрымаецца нешта накшталт сінусоіды, – любіў падкрэсліваць Мікалай Ігнатовіч.







О.Шпеглер Л.Дж.Тойнбі П.Сарокін

Ён заўсёды на вастрыні найноўшых дасягненняў навукі. Крукоўскі, прыцягвае да сваіх пошукаў зусім маладую навуку, якая ўзнікла ў другой палове XX ст. дзякуючы даследаванням Берталанфі, – агульную тэорыю сістэм, а таксама кібернетыку, забароненую ў свой час савецкай ідэалогіяй, як «ілжэнавука».

У выніку атрымліваецца, што «І само грамадства і ягоная культура ўяўляюць сабою, як вядома, складаную шматузроўневую, іерархічную сістэму, і працэс развіцця яе ў часе, што ляжыць у аснове яе гісторыі, утварае таксама цэлае спляценне такіх сінусоід, сваеасабліва ўздзейнічаючых адна на другую адпаведна ўзаемадзеянню саміх гэтых іерархічных узроўняў». Нароўні з цыкламі, для тлумачэння нераўнамернасці развіцця розных культур на зямлі, Н. Крукоўскі ўводзіць паняцце суперцикла. «Менавіта гэта паняцце тлумачыць нам, як здаецца, індывідуальныя асаблівасці звычайных цыклаў, так як яны адлюстроўваюць ўздзеянне вышэйшых сацыякультурных узроўняў на ніжэйшыя і асабліва індывідуальныя вынікі такога ўздзеяння». Такі падыход да гісторыі дазваляе зразумець прычыну краху камунізму ў Савецкім Саюзе. Тут мы бачым ўздзеянне суперцыкла на цыкл: «ленінска-сталінскі" сацыялізм у асобна ўзятай краіне "пачаў будавацца ў Расіі, г.зн., жыць па ўзыходзячай фазе сацыякультурнага цыклу ва ўмовах сыходнай фазы агульнаеўрапейскага суперцыкла сацыякультурнага развіцця».

Крукоўскі прыходзіць да высновы, што з дапамогай канцэпцыі суперцыкла становіцца магчымым разглядаць агульначалавечую культуру як суперсістэму. І робіць выснову аб

магчымасці прагназавання будучыні зыходзячы з дыахранічнага гістарычнага аспекту развіцця – «тэарэтычная гісторыя культуры, апісваючы працэс сацыякультурнага развіцця ў яго диохроничной цэльнасці, г.зн., у часе наогул, можа даць нам карціну не толькі мінулага, але ў самай агульнай форме і пэўныя рысы будучыні, паколькі яна апісвае агульныя заканамернасці гэтага развіцця».

Звернем увагу на тое, што тэорыя цыклу і суперцыклу развівалася М. Крукоўскім у самыя застойныя часы савецкага мінулага. Мы, беларусы, можам ганарыцца тым, што на названых старонках кніг прафесара М. Крукоўскага яшчэ з сярэдзіны 60-х гадоў у нас адкрыта вялася распрацоўка тэорыі цыклічнага развіцця культуры. Але ў вядучых савецкіх часопісах «Пытанні філасофіі» і «Філасофскія навукі» маскоўскімі ўладамі было забаронена нават спасылацца на ягоныя распрацоўкі. Канцэпцыя, развітая Крукоўскім, абагнала расійскую навуку на сорак гадоў і дае нам магчымасць законна, у поўнай адпаведнасці з этыкай і аўтарскім правам, прэтэндаваць сёння на пэўны прыярытэт адносна Расеі ў гэтым аспекце.

### *13. На шляху да адзінай філасофіі. Пошукі Бога*

Самы творчы і самы багаты падзеямі і дасягненнямі перыяд жыцця прафесара М.Крукоўскага прышоўся на апошнія 20 – 25 год жыцця. За гэты перыяд ім было напісана больш артыкулаў на самыя розныя тэмы, чым за ўсё папярэдняе жыццё. Здавалася б толькі радавацца і “пажынаць лаўры”. Але жадаемае супакаенне не прыходзіла. Засмучалі яго не толькі украдзены Масквой прыярытэт у распрацаванай ім канцэпцыі чалавека як біясацыяльнага адзінства. Ён вельмі перажываў, што нацыянальнае адраджэнне 90-х гадоў пачынаючы з канца XX стагоддзя і потым у XXI ст. пачынае хутка губляць сваю пасіянарную сілу, беларуская мова – так ім шанаваная і любімая – становіцца непатрэбнай і, больш таго, становіцца прыкметай прыналежнасці да нейкай не вельмі “харошай” часткі беларускага грамадства, да БНФ.

Можна было б засяродзіцца на больш шчыльным супрацоўніцтве з Беларускім народным Фронтам і працай у Хрысціанска-дэмакратычнай партыі – БХДП. Але і тут яго чакала параза. 11 лютага 1999 года па рашэнню Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь БХДП была ліквідаваная. Прычына надуманая, але потым гэты стыль працы Міністэрства юстыцыі стане дамінуючым. У Рашэнні напісана, што партыя ліквідуецца “В связи с использованием указанной партией символики, незарегистрированной в установленном порядке”. Мікалай Крукоўскі імгненна выходзіць з артыкулам, дзе піша: “Чаму ж менавіта на гэтае грамадска-палітычнае аб”яднанне (БХДП) абрынуўся “высачайшы ўладны гнеў”? Таму што нягледзячы на свой адносна невялікі яшчэ колькасны склад БХДП ў якасці сваёй духоўнай асновы мела ідэю

хрысціянскае дэмакратыі, дыяметральна процілеглую камуна-фашысцкай таталітарнай ідэалогіі”. Ён выказавае надзею на будучыню хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі і піша: Беларуская Хрысціянска-дэмакратычная партыя забаронена, але яе дух і ідэі будуць жыць ў сэрцах сумленных беларускіх людзей нягледзячы на прэзідэнцкі тэрор і пагрозы “паадкручваць апазіцыі голавы”.

Не менш трагічныя падзеі адбыліся ў тыя гады і з БНФ, з якім М.Крукоўскі быў звязаны яшчэ з 1989 года. На VI з’ездзе БНФ у 1999 годзе Фронт раскалоўся, прычым ягоны лідар Зянон Пазьняк яшчэ раней (у 1996 г.) з’ехаў за мяжу. М. Крукоўскі вельмі паважаў Зянона Станіслававіча і падтрымліваў з ім сувязь і ў новых складаных умовах. Пасля ліквідацыі БХДП ён пераходзіць у пазьнякоўскую партыю КХП-БНФ і застаецца ў яе шэрагах да канца жыцця. Ён лістуецца з Пазьняком і піша ў ягоны бюлетэнь “Беларускія ведамасці”, што выходзіць у Варашаве.

У апошнія гады жыцця М. Крукоўскі ўсё больш звяртаецца да асноў філасофіі. Ён марыць аб стварэнні адзінай філасофскай сістэмы, дзе б супярэчнасці паміж ідэалізмам і матэрыялізам былі б станоўча вырашаны. І тым ключыкам ён бачыў менавіта дыялектыку Гегеля, паслядоўнікам якой ён быў усё жыццё. Ён піша: “Традыцыйная філасофія з яе проціпастаўленнем матэрыялізма ідэалізму, дасягнуўшым у савецкія часы амаль паталагічнай маніякальнасці як у СССР, так і на сучасным постмадэрнісцкім Захадзе, менавіта таму сёння павінна быць зменена на цэласную і па-сапраўднаму дыялектычную філасофію, блізкай па тыпу гегелеўскай, аб якой марылі некалі Герцэн і Салаўёў, а пазней на Захадзе і так званыя халісты Уайтхед і Смэтс. Сутнасць такой філасофіі каратка заключаецца ў тым, што зыходнае для кожнага філасофскага кірунку паняцце быцця, трактаванае матэрыялізмам як толькі матэрыяльная сутнасць, а ідэалізмам як сутнасць толькі ідэальная, разумеецца ёю як адзінства матэрыяльнага і рэальнага”. (“Паняцці інфармацыі і структуры ў іх дачыненні да культуралогіі”.**)**

У гэтыя ж часы, у перыяд працы над сваім фундаменатальным творам ”Бляск і трагедыя ідэалаў” і пазней – жа самай смерці Міклай Ігнатавіч усё больш звяртаецца да ідэі Бога. Ён палемізуе на гэтую тэму з роднымі, сябрамі, калегамі. Прымаючы ўсёй душой падмурак Новага Запавету – хрысціянскія каштоўнасці, ён не прымае самаго Хрыста. Дакладней ягонага вучэння аб Спасенні і хрысціянскай ідэі усяленскай Царквы на чале якой стаіць Ісус Хрыстос.

Яму здаецца, што ў філасофіі халізму і хаваецца ідэя Бога. Ён піша: “Ужо вялікі Тамаш Аквінскі выводзіў некалі з арыстоцелеўскіх паняццяў формы і матэрыі паняцце Бога як формы форм. Сёння, напрыклад, можна па-сучаснаму даказальна даць азначэнне Богу як структуры структур, суаднёсшы гэтае паняцце з тым, як яно трактуецца ў манадзе манад Лейбніца і ў

старажытных неаплатонікаў, у Дыянісія Арэапагіта, у старажытнаіндыйскай Рыгведзе і ў кітайца Лао Цзы, і звязаўшы яго з самымі сучасныміі строга навуковымі паняццямі агульнай тэорыі сістэм.

М.Крукоўскі, фактычна, стаіць на пазіцыях пантэізма і бачыць Бога як найдасканалейшую структуру структур, як самую дасканалую Прыгажосць пра якую ён марыў усё жыццё.

Зразумела такая жыццёвая пазіцыя ставіла яго па-за існуючымі канцэпцымі Царквы. Ён не прызнае ні праваслаўнай традыцыі, ні каталіцкай, ні уніяцкай, якую прыняла ўсім сэрцам у тыя ж 90-я дачка філосафа Вольга. І гэтая непрыкаянасць усё боль і больш прыгнятае яго, уводзіць у стан дэпрэсіі і безвыніковай барацьбы з ёй. Апошнія гады яму вельмі часта прыходзілася змагацца з гэтымі дэпрэсіўнымі станамі, але выхаду ён так і не знайшоў, як і не знайшло мадэрнае грамадства XXI ст. новых ідэалаў, замест адвечных ідэалаў гармоніі і прыгажосці.

## *Заключэнне*

Застаецца дадаць, што нам, беларусам, трэба ганарыцца тым, што сярод нас жыў і тварыў прафесар – Мікалай Ігнатовіч Крукоўскі, тварэння якога на шмат гадоў апярэджвалі час. Можна ўпэнена сказаць, што настане гадзіна перамогі яго ідэй…

У рэальнасці, дзейнасць праф. Крукоўскага была далёкая да прызнання яго ідэй у Беларусі, ці хаця б у родным універсітэце. Як гэта часта бывае першае прызнанне ён атрымаў не ў Беларусі – а ў Расіі . “Няма прарока ў сваёй Бацькаўшчыне” – гэта пра яго.

Памёр прафесар М.Крукоўскі 30 верасня 2013 года, не дажыўшы паўтара месяца да свайго 90-годдзя.

Развітанне з прафесарам Мікалаем Крукоўскім адбывалася ў рытуальным залі на вуліцы Сямашкі, 8. Яго адпяваў святар грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы. Хавалі Мікалая Крукоўскага на Паўночных могілках Мінску. Ён ляжаў у труне нарэшце супакоены, мірны. Цела вялікага філосафа пакрываў прыгожы бел-чырвона-белы сцяг.

На могілках прысутнічала ганаровая вахта – адзяленне вайскоўцаў з вінтоўкамі. Калі труну апусцілі ў магілу прагучалі тры залпы.  Яшчэ адзін ветэран Вялікай Айчыннай вайны адыйшоў у лепшы свет.

Цікава, гэтыя заключныя радкі пішуцца 9 мая 2015 года…